# ДУМКІ й ПАГЛЯДЫ

Дадатак да «Беларускага Сьвету, № 5 — 1984 г.


## ПАМЯЦІ Міколы АРЦЮХА (АРТОНА)

Ізноў адзін з радоў беларускіх патрыётаў-вэтэранаў адыйшоў у вечнасьць... Ізноў рады парадзелі тых, хто ў красе свае маладосьці ды сіле юнацкага веку натхнёна сьпявалі: «Беларусь, наша маці краіна, ты з нас моцных зрабіла людзей...»

Нялёгкія жыцьцёвыя шляхі-дарогі ўсіх эмігрантаў, а асабліва эмігрантаў — Беларусаў.

Нябожчык Мікола Артон, аднак, рашуча перамог усе перашкоды. Здабыў ужо на чужыне вышэйшую асьвету, а пазьней натужнаю й мазольнаю працаю дабіўся не да абы-якое пасады — віцэ-прэзыдэнта аднаго з найбольшых банкаў у Дэтройце.

Дзякуючы сваёй прафэсыянальнай пазыцыі ды сваім патрыятычным і рэлігійным перакана્ньням, ён надзвычай выдатна прычыніўся да здабыцьця вялікіх фондаў на Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Дэтройцкую парафію, адданым вернікам якое ён быў да свае перадчаснае сьмерці.

Нарадзіўся нябожчык на Беларусі ў 1924 годзе — памёр у Дэтройце, ЗША ў лютым 1984 г.

Апошняю воляй нябожчыка было пахаваньне яго на беларускім магільніку ў Нью Брансьвіку.

Няхай лёгкай будзе табе, дарагі Мікола, вольная амэрыканская зямля!

Твой сябра, яшчэ з Бацькаўшчыны, — М. П.

## ЭУЛЁГІЯ

### (М. Шчаглову-Куліковічу, Чыкага, 3-га красавіка, 1969 г.)

Дарагія Суродзічы!

Вось зышліся мы тут на апошняе разьвітаньне зь нябожчыкам праф. Міколам Шчагловым-Куліковічам, выдатным кампазытарам, стойкім барацьбітом за свабоду нашага беларускага народу. Зьнямоժаны немачай падаўся ён у іншы сьвет, дзе вечны супакой, — а мы коратка падсумуем ягоны пройдзены шлях і ягоныя заслугі для нашага народу, просячы Бога, каб са сваёй ласкі памянуў яго ў валадарстве нябесным.

Натура абдарыла нябожчыка вялікімі здольнасьцямі, працавітасьцяй, вытрываласьцяй ды любоўю да свайго зьняволенага народу. Яму то й цэласна аддаў усё, што меў: і здольнасьці, і навуку, і працу, — нічога для сябе не вымагаючы.

Служыў свайму народу, як праўдзівы жаўнер, і ў змаганьні, і ў цяжкай працы адбудовы з руінаў і папялішчаў. Ягонай зброяй было



© PDF: Kamunikat.org 2013

**Мастацтва** ў розных відах: ён быў музыкам, кампазытарам, прафэсарам, дырыгентам хораў, аркестраў, рэжысёрам і пастаноўшчыкам опэры й балету, тэатральных пастановак ды эстрадных выступаў.

Ён народным песьням і мэлёдыям надаваў нацыянальны размах, стройнасьць музычнай культуры. Пісаў вялікія нацыянальна-беларускія опэры, музычныя драмы й патрыятычныя песьні на словы нашых паэтаў. Распрацоўваў гісторыю беларускага музычнага мастацтва, так сьвецкага, як і царкоўнага. Бараніў самастойнасьці і арыгінальнасьці беларускага мастацтва словам і пяром, публікуючы артыкулы ў газэтах і часопісах ды ў аддзельных кніжках. Спадчына ягоная вялікая, і ёю ганарыцца беларускі народ: тамы беларускіх народных і патрыятычных песьняў, мэлёдыяў, танцаў і драматызаваных твораў, арыгінальныя ды поўныя мастацкай і нацыянальнай глыбіні опэры, як «Лясное возера» ды «Усяслаў Чарадзей». Частка ягонай спадчыны яшчэ пры жыцьці, бяз ніякай матэрыяльнай карысьці, была апублікаваная, бальшыня — чакае свайго выдаўца.

Ня ўсе бачылі ягоныя цудоўныя пастаноўкі беларускіх опэраў у Менску ў часе апошняй вайны, ня ўсе пабывалі на праграмах ягонай эстраднай групы «Жыве Беларусь» у Нямеччыне, перад капітуляцыяй і пасьля сканчэньня вайны ў лягерох ДП, дзе нябожчык сам са сваёй мастацкай групай тысячы глядачоў уводзіў у вышэйшы стан нацыянальнага пачуцьця й гордасьці за беларускае мастацтва, роздуму аб неабходнасьці далейшага змаганьня за вызваленьне беларускага народу ды ягонай культуры.

Але хіба кожны з вас чуў і сам сьпявае рад патрыятычных песьняў, мэлёдыю да якіх стварыў нябожчык. У «Пагоні» вы адчуваеце магутнасьць нашай мінулай літоўскай дзяржавы ВКЛ, дзе чуецца бура з маланкамі й громам, стогн зямлі пад конскімі капытамі, грымот мячоў па панцырах і шаломах, енк падаючых і трыумф перамогі. А ў песьні «О, Беларусь, мая шыпшына» вы адчуваеце глыбіню лірычнай душы беларускай, любоў і веру, што Беларусь не быліна, але як польная шыпшына з калючкамі, вытрывалая, выносьлівая, непакорная. З мэлёдыямі нябожчыка цьвёрда крочыў з нацыянальным энтузіязмам беларускі жаўнер, юнак і юначка супраць усякіх варожых сілаў. «У гушчарах затканых імглою», «Ідуць жаўнеры Беларусы» — гэта толькі для прыкладу. На песьню «Беларусь, наша Маці-Краіна» маліліся нашы жаўнеры, юнакі й скаўты.

Перад канцом вайны нябожчык узяў торбу пілігрыма за плечы, а сваю родную музу за пазуху ды пайшоў з многімі на Захад, каб музай, мастацтвам, словам і пяром шырыць праўду аб няволі народу, каб беларускае імя сталася ведамае ўсюды, каб вольныя народы дапамаглі вызваліцца беларускаму народу. Цяжкі гэты шлях бяз славы, без матэрыяльных карысьцяў, — у стоме, у немачы. Але нябожчык зь яго не зыходзіў да апошняга тхненьня. У гэтым ягонае геройства.

І ня толькі сваёй музай ён служыў роднаму народу. Ён сачыў пільна за падзеямі на Бацькаўшчыне, атакаваў у публікацыях наступ на беларускае мастацтва, на беларускую духовую культуру, шалёную русыфікацыю.

І ўрэшце яшчэ аб адным аспэкце. Нябожчык быў чалавекам глыбока рэлігійным. Пачынаючы ад Другой сусьветнай вайны ён цесна працаваў зь Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай царквой, быў некаторы час рэгентам у Кліўляндзе, а апошнія гады супрацоўнічаў з экумэнічным беларускім царкоўным рухам. Апрацаваў таксама **Літургію** ў духу беларускіх матываў.

Хай сьніцца яму далей Беларусь, а ягоная вялікая творчая **спадчына,** хай будзе настольнай кнігай для ўсіх беларускіх людзей.

Чэсьць Ягонай Памяці!

Чытаў у часе пахаваньня: Вацлаў Пануцэвіч.

## Яшчэ аб Беларускай Газэце...

У дадатку да «Беларускага Сьвету» — «Думкі й Пагляды» № 4, быў зьмешчаны артыкул «Беларуская Газэта ды іншае...» пяра К.С. У такіх выпадках хавацца з прозьвішчам няма патрэбы, бо тэма цікавая й трэба пра гэта пагаварыць.

Аўтар артыкулу «аб'ехаў» дзеячоў-бэцээраўцаў закідаючы ім нябыліцы, бо трэба ведаць, што бэцээраўцы ня менш ахвярныя за іншых. Іхная ахвярнасьць ідзе па лініі БНФ — Беларускі Нацыянальны Фонд, пераважна на рэпрэзэнтацыю Беларусі сваімі дэлегатамі на міжнародных арэнах. Гэта робіць добра БЦР са сваім БНФ. Аўтарытэт іхны на міжнароднай арэне бясспрэчны. Пры гэтай нагодзе хачу спытаць сп. К. С. колькі даляраў ён даў на БНФ? Як мне ведама, БНФ падтрымоўваюць толькі бэцээраўцы — верныя пастановам ІІ-га Усебеларускага Кангрэсу. Тое самае наглядаецца й зь беларускай прэсай, якая прыхільна адносіцца да БЦР ды верна трымаецца пастаноў таго-ж Кангрэсу. Возьмем, напрыклад, «Беларускую Думку». Я бачыў на лісьце ахвярадаўцаў на выдавецкі фонд толькі адно прозьвішча з боку бээнэраўцаў, а іменна — М. Тулейкі, а часапіс вельмі вартасны.

Што наша інтэлігенцыя больш скупая, як іншых народаў, дык гэта мы бачым па адным і другім боку. Сумна гэта, бо-ж яны маюць лепшыя заробкі як іншыя, простыя людзі. Яны думаюць, што перахітрылі ўсіх тым, што не падтрымоўваюць беларускага вызвольнага змаганьня, а прыліплі, як вош да старога кажуха, да мацнейшых чужынцаў.

Я поўнасьцю згодны з тым, што нам патрэбная беларуская газэта, якая-б задавальняла ўсіх беларусаў. Пра гэта я пісаў шмат гадоў назад, а К. С. толькі цяпер агледзіўся. Але, лепш позна, як ніколі. У той час матэрыяльна я быў моцным і паслаў 50 даль. на «Беларуса» ды таксама на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Праз кароткі час я паўтарыў тое самае. Др. В. Тумаш склаў мне ў «Беларусе» падзяку, тое-ж зрабіў і Ст. Станкевіч. Я думаў і хацеў часьцей пасылаць ім падтрымку, але...

Пасьля доўгай хваробы праф. Астроўскі вярнуўся да працы. Я напісаў пра гэта кароценькую зацемку й прасіў Ст. Станкевіча зьмясьціць яе ў «Беларусе». Ст. Станкевіч не захацеў, але хутка пасьля гэтага напісаў шмат пра іншага прэзыдэнта. Як мне ведама, Ст. Станкевіч не хацеў нават зьмяшчаць вестак пра сьвяткаваньні, дзе спаміналася пра ІІ-гі Усебеларускі Кангрэс, але пра іншыя падзеі ў БНР пісаў пры кожнай нагодзе. Цяпер пытаю К.С.: Хто навучыў нашых суродзічаў да аднабаковай ахвярнасьці?

Я быў і ёсьць ворагам падзелу Беларусаў, бо ён нам шкодзіць. Я за тое, пакуль няма еднасьці, каб выдавалася газэта, якая задавальняла-б усіх Беларусаў. Пры добрай волі такую газэту мы можам выдаваць. Я даўным-даўно прапанаваў Ст. Станкевічу з «Беларуса» стварыць такую газэту. А зрабіць гэта зусім проста. «Беларус» на сваіх старонках не патрабуе спамінаць ані пра БЦР, ані пра БНР. БЦР мае свой бюлетэнь «Жыве Беларусь» і зьмяшчае там пра сваю працу, а БНР, здаецца, мае свой. На старонках «Беларуса» нявартa таксама кранаць нашы царкоўна-рэлігійныя справы, бо нашыя цэрквы маюць свае ворганы. Калі напішацца ў «Беларусе» пра падзеі ў аднэй царкве, дык вернікі другой царквы абураюцца, і наадварот. Калі «Беларус» здабудзецца на незалежнасьць, дык падтрыманьне будзе з усіх бакоў. А такая газэта нам вельмі патрэбная!..

Я выказаў свае думкі шчыра і адкрыта. Прывітаю іншых, што выкажуць свае думкі адносна супольнай **беларускай** газэты.

Ю. Попко.

## Яшчэ аб...

Артыкул «Беларуская газэта ды іншае...» навёў мяне на старую й шмат разоў перамеляную думку. Аўтар артыкулу нібы мімаходам закідае «заслужаным» дзеячом БЦР, што яны газэты «Беларус» не падтрымоўваюць. Каб разыграць гэтыя разважаньні ўнічыю, трэба, і то станоўча, выказаць, што й «заслужаныя» дзеячы БНР ня надта гойна «Беларуса» фінансуюць. Толькі невялікі лік, і то скарэй інтэлігентных культурнікаў чым БНРаўцаў, выдатна дапамагаюць газэце. Большасьць-жа, гэта 10-15 даляроўцы, дый то ня сталыя, але каб толькі адмахнуцца, як ад назойлівае мухі.

За выняткам лічаных на пальцах ахвярных асобаў, ані тыя, ані другія шчодрасьцю не казыраюць. І тут, дарэчы, мне хочацца перафразаваць вядомы верш: « Вучыць нас трэба яшчэ многа, як сваё роднае шанаваць...»

В. Б.

## Яшчэ аб...

... Лёгка сказаць, што Беларусы патрабуюць сваю тыднёвую газэту, але на пакрыцьцё самога друку патрэбна каля 52 000 даляраў у год, прымаючы пад увагу, што пісаць і рэдагаваць яе нехта будзе з патрыятычнага пачуцьця. На маю думку, нашай эміграцыі гэта не па сіле. Трэба ведаць, што Стасі Станкевічы родзяцца вельмі рэдка, бо толькі ён мог нешта падобнае выканаць, і то не за грошы з беларускае кішэні...

К. К.

## Пахвальная зьява.

На Каляды — Раства Хрыстова — 1983 году ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлянд Парку, давялося мне пабачыць вялікую колькасьць Беларускае моладзі. Даўно я ўжо чагось падобнага ня бачыў. Бывала нешта падобнае на Бацькаўшчыне, на так зв. царкоўных фэстах.. а цяпер у нашай парафіі. Выглядае, што Галоўная Управа Беларускае Моладзі зь Нью Ёрку пра гэта падбала, каб моладзь наведала нашу парафію якраз на другі дзень Калядаў, — прысьвечаны пахвале Прачыстае Дзевы Марыі — Маці Госпада нашага Ісуса Хрыста. А можа моладзь хацела пакалядаваць па хатах нашых беларускіх сем'яў, бо-ж надвор'е выпала спрыяльнае...

Мне, ужо старому, вельмі прыемна было бачыць маладых, поўных жыцьця між нас народжаных яшчэ на Беларусі. Насоўвалася думка, што ня так ужо дрэнна ў нас, калі гэтулькі маем маладых амэрыканцаў беларускага паходжаньня, якія ня цураюцца нас, а супольна са старэйшымі сьвяткуюць нашыя традыцыйныя сьвяты ды цікавяцца значэньнем кожнае падзеі, ці то царкоўнае, ці нацыянальнае. Відаць, што ўсьведамілі іх у гэтым іх разумныя бацькі.

Дайшлі чуткі, што нешта падобнае наглядалася і ў Клыўлэндзкай парафіі.

Выяўляючы вялікае захапленьне пабачаным, я хачу пахваліць усіх нашых маладых, што правялі сьвяты Калядаў з намі старэйшымі ды пажадаць, каб моладзь памятала аб Вялікадні й **25-ым** Сакавіку.

Хацелася-б бачыць вялікі ўдзел моладзі таксама на розных агульных сустрэчах ды фэстывалях.

Давялося мне бліжэй пагутарыць з адным маладым, які сказаў мне што й я ня так ужо выглядаю старым, бо ёсьць яшчэ старэйшыя.

Ухапіўшыся за гэтую прыемную заўвагу, я ўжо й падпішуся:

Малады дзядуля А.

**Ад Рэдактара:**

Наступнае выданьне «Беларускага Сьвету» запланавана на восень гэтага году.